**№3 (1816)**

Аўторак, 13 студзеня 2004 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г. на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць — 5 разоў у тыдзень
Выдавец УП «Народная воля».

Кошт свабодны.

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

**Якуб КОЛАС**

E-mail : nv@promedia.by
http://nv.promedia.by

### *Надвор'е*

У Мінску сёння ўдзень чакаецца — -3...-1, уначы — -4...-2, на працягу сутак — снег; у Брэсце ўдзень — -1...+1, уначы — -2...0, на працягу сутак — снег; у Гродне ўдзень — -1...+1, уначы — -2...0, на працягу сутак — снег; у Віцебску ўдзень — -5...-3, снег, уначы — -3...-1, без ападкаў; у Гомелі ўдзень — -3...-1, уначы — -2...0, на працягу сутак — снег; у Магілёве ўдзень — -4...-2, уначы — -3...-1, на працягу сутак — снег.

*www.meteo.by*



**SOS!**

## Журналисту «Белорусской деловой газеты» Ирине Маковецкой угрожают убийством

*Ирина предполагает, что ей угрожают за материал, посвященный гомельскому периоду жизни премьер-министра Беларуси **Сергея СИДОРСКОГО**.*

"Все произошло позавчера в четыре часа утра. Мне на домашний телефон позвонил неизвестный мужчина и назвался представителем белорусского народа, — рассказывает Ирина. — На протяжении часа он звонил мне четыре раза. Самым долгим был его третий звонок. У меня есть диктофонная запись разговора, сейчас прочитаю...

*"Чего ты так ненавидишь белорусский народ, всякую гадость пишешь на президента? Месяц назад написала какую-то херню про него. Сама знаешь, какую... Не на народ ты работаешь, не на эту власть, а на какую-то другую... Ты нюх потеряла... Все равно будет референдум, народ любит президента, и его снова изберут..."*

Он сказал, что мне лучше уехать из этой страны. Мол, вообще завязывай со своей журналистской деятельностью, потому что "БДГ" скоро загнется...

Сказал, что моя последняя публикация очень не понравилась некоторым людям, что не надо было об этом писать. Моя последняя публикация — это портрет Сергея Сидорского.

Звонивший сказал, что поставит мне свечку за упокой и меня похоронят. И пожелал мне спокойной ночи в сырой земле, сообщив, что пока у меня есть выбор: я могу уехать за границу".



Я сразу позвонила в "02", сказала, что мне угрожают убийством, попросила, чтобы попробовали определить номер звонившего, потому что он обещал перезвонить еще. Мне сказали, что это сделать невозможно: у милиции нет таких возможностей... Посочувствовав, мне предложили просто написать заявление по месту жительства..."

**Марина КОКТЫШ.**

**ЭПИДЕМИЯ**

## 9-летняя минчанка умерла от гриппа

***Официально это первый и пока единственный случай смерти от гриппа в этом сезоне. Но в стране продолжается эпидемия, и медики предупреждают: при первых симптомах заболевания обязательно нужно обращаться к врачу.***

Школьница 155-й минской школы плохо почувствовала себя 19 декабря прошлого года. На следующий день девочка не смогла пойти в школу: температура поднялась до 40°, усилился кашель. 22 декабря родители вызвали участкового врача. Доктор диагностировала грипп, назначила лечение. Но ночью девочке стало хуже, пришлось вызвать "скорую помощь". Уже с другим диагнозом — "бронхопневмония" — ее госпитализировали в 3-ю детскую клиническую больницу Минска, в отделение интенсивной терапии. Но несмотря на проводимое лечение, 27 декабря девочка умерла.

Предварительно причиной смерти, по мнению врачей, стало постгриппозное осложнение, у девочки началась острая генерализованная инфекция, двусторонняя очаговая пневмония. Но точно о причинах смерти можно будет говорить только после патологоанатомического анализа.

В Республиканском центре гигиены, эпидемиологии и общественного здоровья говорят, что девочке не была сделана прививка от гриппа. И неизвестно, как бы протекала болезнь, будь ребенок привит. Исследования Всемирной организации здоровья показывают, что если человек, сделавший прививку против гриппа, все-таки заболевает, болезнь протекает значительно легче.

В этом сезоне в Беларуси эпидемия гриппа началась раньше. Ее прогнозировали на вторую половину января 2004 года, но уже в начале декабря прошлого года в Витебске зафиксировали вспышку заболеваемости, а 10 декабря объявили об эпидемии. Витебских школьников даже на неделю раньше отправили на зимние каникулы.

Сейчас эпидемия гриппа зафиксирована в 14 из 18 контрольных городов Беларуси. В медучреждениях объявлен карантин, закрываются школы там, где по причине заболеваемости отсутствует 30% учащихся. Нет эпидемии только в Бресте, Барановичах, Могилеве и Речице, там зафиксирован обычный сезонный подъем заболеваемости ОРВИ.

*"В этом сезоне циркулирует такой же грипп, как и в прошлом,* — говорит заведующая отделом иммунопрофилактики и надзора за воздушно-капельными инфекциями **Вероника Шиманович**. — *Это подтверждает иммунофлюоресцентный анализ, который провели специалисты НИИ микробиологии. Обычно эпидемия протекает 5—6 недель. И мы предупреждаем, что надо делать прививку. К слову, в этом году прививку от гриппа сделало 6% населения, а в прошлом только 4%. Сейчас делать прививку уже нет смысла, после новогодних праздников темпы распространения вируса гриппа снизились".*

Тем не менее грипп может натворить немало бед. Особенно опасен он своими осложнениями. Поэтому если поднялась температура, заслезились глаза, стало ломить кости — срочно вызывайте врача.

Терапевты также добавляют: если вы чувствуете себя хорошо, но заболел кто-то из близких, необходимо предпринять меры профилактики: принимать ремантадин, закапывать интерферон, закладывать в нос оксолиновую мазь. В аптеках продаются и гомеопатические средства: афлубин, элексон и другие. Есть препараты, изготовленные из трав: корня солодки, эхиноцеи, элеутерококка. Не стоит забывать о лимонах, апельсинах, чесноке, аскорбиновой кислоте и других витаминах.

**Мария ЭЙСМОНТ.**

## Бухвостов требует справедливости



Лидер Независимого профсоюза АСМ Александр Бухвостов направил в Министерство юстиции РБ заявление, в котором просит провести проверку решений декабрьского внеочередного съезда профсоюза автосельхозмашиностроения и восстановить справедливость.

Как сообщает www.praca-by.info, внеочередной съезд профсоюза АСМ отстранил Бухвостова от должности председателя организации. Сам профсоюзный лидер не согласен с этим решением.

По уставу профсоюза АСМ решение съезда считается принятым, если за него высказалось более половины делегатов, участвующих в работе съезда. Мандатная комиссия заявляла, что на съезд прибыло 396 делегатов, из них за открытое голосование высказалось всего 192, а это — меньше половины. "Решение съезда по открытому голосованию не было принято, — говорит Бухвостов. — Значит, открытое голосование по моей отставке тоже недействительно. Предложение "переголосовать" оба вопроса было отклонено. Они не хотели следовать уставу и торопились отстранить меня от должности. Все это происходило под давлением главы ФПБ Козика".

30 декабря новый руководитель профсоюза АСМ Валерий Кузьмич уволил Александра Бухвостова и его заместителя Александра Евдокимчика. В ближайшее время Бухвостов намерен обратиться в суд с заявлением о восстановлении его на работе в профсоюзе АСМ, поскольку считает, что переизбран незаконно, а значит, и незаконно уволен.

**НЕЗАЛЕЖНАЯ ЭКСПЕРТЫЗА**

## Па шляху Мікіты Хрушчова?

**Уладзімір КУЛАЖАНКА, доктар эканамічных навук, прафесар**

Сённяшняя эйфарыя ўлады з нагоды вызначанага росту грамадскай вытворчасці краіны на будучы год аж на 10 працэнтаў, а сярэдняй заработнай платы бюджэтнікаў — да 170 долараў у месяц нагадвае эйфарыю палітыкі эканамічнага развіцця Савецкага Саюза ў апошнія гады кіраўніцтва Мікіты Хрушчова. Тады на адным з партыйных форумаў, разглядаючы паказчыкі эканамічнага развіцця на чарговую пяцілетку, Мікіта Сяргеевіч пафасна заявіў: **"Мэты ясныя, задачы вызначаныя. За працу, таварышы!".**

Але заклік саракагадовай даўніны так і застаўся пустым гукам. Прычына правалу пяцігодкі — не былі створаны ўмовы для эканамічнага росту. Першае — не быў пераадолены застой у сельскай гаспадарцы. Другое — неадпаведнасць размеркавальных адносін задачам росту. Сапраўды, чаму перадавыя краіны Еўропы і свету так паспяхова развіваюцца? Таму, што праблема вытворчасці прадуктаў харчавання надзейна вырашана. Дзяржава і гаспадарчыя суб'екты могуць як заўгодна рэгуляваць прадуктовыя і фінансавыя плыні па-за межамі сельскай гаспадаркі, скіроўваючы іх на апераджальны прырост і рост эканомікі ў цэлым. А гэта тысячца дзейнасці прыкладна 95% працоўных рэсурсаў, а 5% (у некаторых краінах і 2,5%) пры падтрымцы дзяржавы паспяхова спраўляюцца з вытворчасцю прадукцыі раслінаводства і жывёлагадоўлі. У былым Савецкім Саюзе, дзе ў сельскай гаспадарцы было занята ў сярэднім каля трэці працаздольнага насельніцтва, праблема забеспячэння нармальнага ўзнаўлення галоўнага чынніка вытворчасці — рабочай сілы — не была вырашана. Кідаліся з боку ў бок — ад асваення цалінных земляў і ўвядзення гаспадарчага падраду да гарантаванай, але досыць нізкай аплаты працы, а справа не вырашалася. Даводзілася штогод купляць мільёны тон збожжа, адцягваючы рэсурсы ад інвестыцый.

Тым больш не вырашалася праблема размеркавання прадукту. Ільвіная доля яго ішла на мэты ваенна-прамысловага комплексу ды на ўтрыманне чынавенства. Грошай на інвестыцыі не хапала. Краіна заставалася без дарог, без сучасных тэхналогій. Рост жыццёвага ўзроўню быў занядбаны. Вынік неўзабаве сказаўся: ВПК "з'еў" сацыялізм.

Нешта падобнае з эканамічным ростам назіраецца сёння і ў Беларусі. Шмат ёсць прычын, якія проста блакіруюць эканамічны прагрэс. Але галоўныя — тыя, якія я назваў вышэй. І, канешне, перш за ўсё — непераадолены крызіс сельскай гаспадаркі. Людзі пабеглі з вёскі ў горад. З 1990 па 2003 год колькасць працуючых на палях і фермах скарацілася з 1067,8 тысячы чалавек да 473,4 тысячы. Атрымліваецца, што мы імкліва даганяем індустрыяльна развітыя краіны па колькасці занятых у сельскай гаспадарцы. Але гэтыя "дагонкі" надта абцяжараныя адставаннем. Калгасы і саўгасы ў даўгах, як у шаўках. Толькі сума пазык дасягнула 2498,8 мільярда рублёў. За апошнія 10 год вытворчасць мяса ў калгасах і саўгасах скарацілася амаль удвая, малака — у 1,5 раза, буйной рагатай жывёлы паменела ў 1,8 раза, свіней — у 1,6 раза. Імкліва скарачаецца пагалоўе буйной рагатай жывёлы ў асабістых падсобных гаспадарках, у пенсіянераў, бо іх памочнікі — дзеці і ўнукі — пакідаюць вёску. Абязлюдзенне вёскі звязана з самай нізкай у краіне заработнай платай, амаль спыненнем жыллёвага будаўніцтва, развалам калгасаў і саўгасаў.

З усяго відаць, што ратаванне калгасаў і саўгасаў касметычнымі мерамі (устанаўленнем шэфства прамысловых прадпрыемстваў, перадачы разваленых гаспадарак фермерам ды іншым прадпрымальнікам) не прынясе жаданых вынікаў. Так што давядзецца зноў браць гаспадаркі на дзяржаўны фінансавы крук. Тут не да росту...

Ёсць меркаванне, што высяленне сялян — гэта наўмыснае дзеянне пэўных колаў супраць беларушчыны, бо вёска стагоддзямі жывіла родную мову, культуру, самабытнасць. Апусцее вёска, і на гарызонце замаячыць поўная асіміляцыя. Пры гэтым мала суцяшае тое, што перасяленне вёскі ў горад свядома ажыццяўляецца дзеля таго, каб давесці колькасць сялян да такога ўзроўню, каб потым дасягнуць цывілізаванага ўзроўню вытворчасці шляхам поўнай механізацыі і аўтаматызацыі.

Эканамічны рост вызначаецца і практыкай размеркавання створанага прадукту, а больш дакладна — зноў створанай вартасці, на фонд спажывання і фонд зберажэння. Сёння гэтая форма размеркавання не адпавядае тым задачам, якія ставяцца кіраўніцтвам краіны па росце вытворчасці. Так, паводле афіцыйных статыстычных дадзеных, інвестыцыі вытворчага прызначэння за апошнія тры гады не перавышалі 11,3% да ВУП, што вельмі мала. Недастатковасць інвестыцый выяўляецца і пры параўнанні аб'ёму інвестыцый з дарэформенным перыядам. Калі памер інвестыцый за 1989 год прызнаць за 100, то ў 1999—2002 гадах яны склалі толькі 54—56%. Значыць, знізіліся амаль удвая. Невыпадкова зношанасць асноўных фондаў у прамысловасці Беларусі дасягнула 61,4%, а ў асобных галінах, такіх як чорная металургія (45,7%), харчовая прамысловасць (47,1%), вытворчасць будаўнічых матэрыялаў (56,1%), знос яшчэ больш значны. Прыведзеныя лічбы сведчаць, што ў краіне не толькі не растуць асноўныя фонды, але не ажыццяўляецца іх простае замяшчэнне.

У чым прычына такой негатыўнай з'явы? Безумоўна, у неадэкватным размеркаванні выробленага грамадскага прадукту на дзве асноўныя часткі: фонд спажывання і фонд накаплення. Менавіта на гэтыя абставіны звярнуў увагу А.Лукашэнка на нядаўняй нарадзе сілавікоў. Ён звярнуў увагу на тое, што ў Міністэрстве ўнутраных спраў працуе тысяча чыноўнікаў, што такая раскоша недапушчальная. Прэзідэнт даў даручэнне скараціць колькасць чыноўнікаў. Між тым гэта тычыцца таксама раздзьмутага абласнога апарату і нават раённага. Фактычна дадзена каманда скарачаць залішняе спажыванне і вызваляць сродкі для капіталаўкладанняў. І гэта зразумела, бо сродкі, якія ідуць на ўтрыманне дзяржаўнага апарату, які ніяк не скарачаецца, войска, міліцыі, штат якіх таксама непамерны — гэта ўсё фонд спажывання.

Як вядома, галоўным механізмам размеркавання створанага прадукту ў грашовай форме з'яўляецца дзяржаўны бюджэт. Так, даходы кансалідаванага бюджэту на будучы год складуць 19 трыльёнаў рублёў, ці аж 42,1% ад валавога ўнутранага прадукту. Добра, што размеркаванне даходаў бюджэту мае сацыяльнае накіраванне. Выдаткі на ахову здароўя павялічаны да 2,11 трыльёна рублёў (4,7% ад ВУП), на асвету — да 2,9 трыльёна рублёў (6,5% ад ВУП). Але разам з тым застаюцца вельмі вялікімі (264,3 млрд. рублёў) выдаткі на ўтрыманне органаў дзяржаўнага кіравання; 695,3 млрд. рублёў будзе выкарыстана на ўтрыманне сілавых структур. Параўнанне апошняй лічбы з аб'ёмам фінансавання дзяржаўных капітальных укладанняў (356,7 млрд. рублёў) гаворыць пра многае.

Не на карысць інвестыцыям гаворыць і практыка фарміравання даходнай часткі бюджэту. Было б вельмі добра, каб дамінаваў падатак на прыбытак і прыбытковы падатак, а яны ў нас складаюць адпаведна 12,4 і 12,2% даходаў бюджэту, ці разам узятыя 24,6%, меней за паступленні ад падатку на дабаўленую вартасць (30,2%). Значыць, прадпрыемствы маладаходныя, і цяжка ўявіць, як яны змогуць забяспечыць 10-працэнтны рост вытворчасці. Праўда, пра тое, якія сродкі будуць выкарыстаны для намечанага прарыву ў эканоміцы, начальства маўчыць.

Застаюцца без адказу і некаторыя пытанні, звязаныя з ростам заробкаў да 170—175 долараў у месяц пад канец будучага года. Па-першае, гэтага можна дасягнуць пры выкананні вытворчых заданняў. Непазбежныя пры ціску зверху прыпіскі не дапамогуць. Па-другое, нават запланаваны рост аплаты працы ў доларах ёсць толькі намінальны, бо не ўлічваецца дэвальвацыя долара, якая таксама мае месца.

Але трэба звярнуць увагу на адну тонкую акалічнасць, якую не могуць улічваць простыя працаўнікі.

*(Заканчэнне на 2-й стар.)*

**КРИМИНАЛ**

## За решетку — на девять лет

К семнадцати годам гомельчанин Максим Куликов успел трижды побывать на... скамье подсудимых и уже условно-досрочно освободился от отбытия наказания.

Судимости ничему не научили "продвинутого" на почве криминала малолетку. Однажды вечером он напал на мужчину, выходящего из магазина. Удар металлической трубой по лицу привел к повреждению глаза потерпевшего, стойкой утрате трудоспособности и инвалидности. Отобрав две бутылки вина и 17 тысяч рублей, преступник скрылся в темноте.

На этом похождения несовершеннолетнего бандита не закончились. Через несколько дней на соседней улице он с неустановленными следствием лицами напал на прохожего. У избитой жертвы отобрали дубленку и 23 тысячи рублей.

Возмездие не заставило себя ждать — суд Новобелицкого района Гомеля на этот раз гораздо строже подошел к избранию меры наказания зарвавшемуся юнцу. Он на девять лет изолирован в воспитательной колонии для несовершеннолетних.

## На «отдых» — в тюрьму

Двадцатилетний житель Жлобина Николай Васильченко культурно отдыхал с подругой в круглосуточно работавшем кафе на привокзальной площади. Около четырех часов утра, заметив покидающего заведение незнакомца, он увязался следом и возле пешеходного моста через железнодорожные пути свалил жертву с ног. Нанеся несколько ударов руками и ногами, злодей отобрал мобильный телефон "Моторола" и двадцать тысяч рублей.

Скрылся злодей ненадолго — вскоре последовал арест, запоздалое раскаяние и справедливое возмездие. Суд Жлобинского района приговорил разбойника к трем с половиной годам изоляции от общества в исправительной колонии усиленного режима.

В баре гомельской гостиницы "Турист" отдыхал другой двадцатилетний нигде не работающий — Денис Витковский. Когда между ним и другим посетителем ночного заведения возникла ссора, а затем и рукопашная схватка, Денис на свою силу и мастерство ближнего боя рассчитывать не стал. Вытащив из кармана нож, "на всякий случай" пырнул более сильного соперника в живот и бросился к выходу. Спринтер из него оказался никудышний — дежурившие у входа в гостиницу милиционеры не дали убежать дальше ста метров.

Врачи спасли потерпевшего, а за причинение тяжких телесных повреждений, опасных для жизни, суд Центрального района Гомеля ограничил свободу любителя поножовщины на три года.

**Михаил ОГОНЬКОВ.**

**ВІНШУЕМ!**

# Насустрач часу

## Заўтра, 14 студзеня, спаўняецца 65 гадоў вядомаму беларускаму мастаку Васілю Шаранговічу

Мастак Васіль Шаранговіч — адзін з самых выдатных і знакамітых творцаў у гісторыі беларускай кніжнай і станковай графікі. Працы яго ў гэтым жанры — партрэты, кампазіцыі, пейзажныя малюнкі — прынеслі яму шырокую вядомасць і прызнанне як на Радзіме, так і далёка за яе межамі. Пацвярджэннем гэтаму — званні заслужанага дзеяча мастацтваў і народнага мастака Беларусі, Дзяржаўная прэмія і шматлікія іншыя айчынныя і замежныя ўзнагароды, прэміі, дыпломы.

Але асобу Шаранговіча на беларускай культурнай ніве немагчыма ўявіць і без яго другой іпастасі — іпастасі педагога. Трыццаць гадоў жыцця ахвяраваў ён педагагічна-выхаваўчай дзейнасці ў Беларускай акадэміі мастацтваў — спачатку выкладчыкам і загадчыкам кафедры, затым прарэктарам і апошнія дзевяць гадоў — рэктарам. Не толькі клапатлівы, чулы і патрабавальны настаўнік творчай моладзі, але і таленавіты арганізатар вучэбна-навуковай дзейнасці славутай установы. Дарэчы, гэта яго стараннем Тэатральна-мастацкі інстытут быў рэарганізаваны ў Акадэмію.

Нарэшце, Васіль Шаранговіч — актыўны грамадскі дзеяч. Не пералічыць усе моманты ягонага ўдзелу ў важных грамадска-палітычных і культурна-асветніцкіх акцыях — там, дзе патрэбны яго творчы аўтарытэт, яго прынцыповая грамадзянская пазіцыя, яго ўзважанае на вагах сумлення слова. Дзе нярэдка даводзіцца паказаць і свой байцоўскі характар.

Сёння ўжо можна з усёй пэўнасцю сказаць: у асобе Васіля Шаранговіча Беларусь мае мастака-творцу і педагога высокай прафесійнай і грамадзянскай годнасці. З чаго яна пачыналася і як станавілася — гэта вызначальная рыса яго чалавечага і мастакоўскага характару? Ды, напэўна, з таго, з чаго пачынаюцца, узыходзяць, узрастаюць усе неардынарныя постаці нацыянальнай культуры: з пачуцця любові і ўдзячнасці. Любові да жыцця як да найвялікшага дару боскага, да зямлі, на якой нарадзіўся і вырас, абрысы і колеры якой, дух і водар якой, галасы і гукі якой уваходзілі ў душу з маленства і гэтую душу фарміравалі. Удзячнасці бацькам за хлеб надзённы і за вечны хлеб духоўнасці, за шчодрыя і мудрыя ўрокі чалавечнасці, а таксама суседзям-вяскоўцам, настаўнікам, затым — сябрам-мастакам, пісьменнікам, навукоўцам і ўсім іншым добрым людзям, якіх сустракаў на сваёй нялёгкай жыццёвай дарозе. Аднойчы, ужо будучы масцітым і знакамітым, ён слушна скажа: "Мне ўвесь час шанцавала на добрых людзей, і я пільнаваўся, каб не застацца перад іх дабрынёй у даўгу".

Пачуццё любові і ўдзячнасці ў душы мастака своечасова пачало знітоўвацца з пачуццём адказнасці і абавязку, а значыць, і строгай патрабавальнасці да сябе. Да сябе і, зазначым дзеля справядлівасці, да тых, хто ў справах, у дарозе з ім поплеч. Мала ведаю такіх абавязковых і верных сваім маральным прынцыпам людзей, як Васіль Шаранговіч. Ці ёсць патрэба падкрэсліваць, што без усіх гэтых якасцяў і рыс характару сур'ёзныя, значныя поспехі і дасягненні ў мастацкай творчасці немагчымыя? Зрэшты, і ва ўсякай іншай грамадска-карыснай дзейнасці таксама.

Ад гадоў маладосці, ад пары вучобы і першых творчых спроб мастак Шаранговіч ішоў насустрач жыццю і часу з душою адкрытай і чуйнай да зрухаў і перамен у грамадскіх настроях, да тэндэнцый і праяў абнаўлення. Ён ішоў насустрач часу, а час — насустрач яму, насустрач яго запаветным марам і жаданням. Пасля доўгіх дзесяцігоддзяў гнятлівага застою і амярцвення ў душах нашчадкаў Скарыны пачала абуджацца і ўсё шырэй пускаць карані ідэя беларускага нацыянальнага адраджэння. Шаранговіч не спазніўся далучыцца да гэтага самага значнага і магутнага грамадска-палітычнага і культурна-асветніцкага руху ў гісторыі Беларусі канца XX стагоддзя. Усім сваім папярэднім жыццём, вучобай і працай ён быў падрыхтаваны да гэтага. Час, можна сказаць, прымусіў яго пільней прыглядзецца да гістарычнага жыццябыцця свайго народа, глыбей удумацца ў асаблівасці яго лёсу, шырэй адкрыць для сябе гераічныя моманты і трагічныя павароты яго гісторыі. І канешне ж — яшчэ выразней убачыць сапраўдны характар народа, убачыць і — увасобіць у сотнях яскравых вобразаў-тыпаў беларуса. О, як многа бачыцца і прачытваецца ў гэтых разнастайных людскіх абліччах! Чалавечая годнасць, мужнасць і цвёрдасць характару, багацце і хараство ўнутранага свету, дабрыня і светлыня душы. Такім — высакародным, прыгожым, мудрым, эпічна-велічным і магутным — падае мастак свайго галоўнага героя. Створаныя ім графічныя партрэты беларусаў — ад звычайнага селяніна ці ганчара да Купалы і Коласа — у сукупнасці сваёй ёсць узнёслы, светлы гімн чалавеку і чалавечнасці, высокі, пранікнёны хваласпеў Беларусі і беларускаму народу. Нехта, можа быць, скажа — ідэалізацыя? Я наконт гэтай адметнасці мастацкага почырку Шаранговіча скажу іначай: гэта — філасофска-светапоглядная пазіцыя, гэта — своеасаблівая форма водпаведзі мастака-патрыёта ўсім тым незлічоным "ворагам беларушчыны", што ў сваіх пісаннях і маляваннях, наўмысна ці па бяздумнасці, прыніжалі і абражалі беларуса, падавалі яго вобраз пачварна скажоным, непрыглядным, духоўна ўбогім (падавалі і, на жаль, падаюць!). Думаю, гэта шчаслівая рыса светапогляду і таленту мастака — бачыць свой народ у высокіх праявах ягонага духу, ягонае жыццёвае волі. Гэта ёсць і красамоўнай адзнакай уласнага характару мастака: няздольнасць дробязна драбязіцца, мітусліва марнаваць час і сілы на пустое, нікчэмнае, нявартаснае.

Як вядома, талент або прызнанне кожны творца атрымлівае ад Бога. Але належным чынам, глыбока і верна зразумець гэтае сваё прызванне, але распарадзіцца ім, гэтым Божым дарам, у вышэйшай меры адказна, рацыянальна і разумна, але нястомна і няўхільна ісці ўсё жыццё шляхам самаахвярнага служэння вялікім ідэалам Бацькаўшчыны — гэта даецца далёка не ўсім, пазначаным ласкай Усявышняга. Мастаку Васілю Шаранговічу гэта дадзена.

**Ніл ГІЛЕВІЧ, народны паэт Беларусі.**



### *Радкі з біяграфіі*

*1939 — нарадзіўся ў вёсцы Качаны Мядзельскага раёна Мінскай вобласці*
*1966—1967 — мастацкі рэдактар выдавецтва "Беларусь"*
*1974 — дацэнт*
*1975 — адзначаны Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета БССР*
*1978 — заслужаны дзеяч мастацтваў БССР*
*1981 — прафесар*
*1986—1989 — прарэктар па навучальнай працы БДТМІ*
*1986 — лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі*
*1989—1997 — рэктар Беларускай акадэміі мастацтваў (былы БДТМІ)*
*1989 — адзначаны залатым знакам агенцтва "Интэрпрэс"*
*1991 — народны мастак Беларусі*
*1995 — адзначаны Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь*
*1995 — акадэмік графікі Беларускай акадэміі выяўленчага мастацтва*
*1995 — акадэмік Міжнароднай акадэміі навук Еўразіі*
*1997 — дырэктар Музея сучаснага выяўленчага мастацтва*
*Удзельнік рэспубліканскіх і ўсесаюзных выстаў з 1967 года. Работы экспанаваліся ў Польшчы, Італіі, Францыі, Грэцыі, Балгарыі, Чэхаславакіі, Даніі, Канадзе, Фінляндыі, Індыі, Сірыі, Бельгіі, Германіі і іншых краінах.*

